Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# Наперад!

Беларуская ...ная тыднёвая часопіс.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 4 верасьня 1930 г. №. 23

## Пасьля роспуску Сойму.

Загадам Прэзыдэнта Рэспублікі Сойм і Сэнат у сучасным складзе сваім—распушчаны. Новыя выбары адбудуцца: у Сойм—16 лістапада, у Сэнат—23 лістапада.

Ня гледзячы на тое, што старая вера народных масаў у магчымасьць нечага дабіцца для сябе праз польскі парлямант — зусім занікла, доказам чаго было збайкатаваньне 70 працэнтамі выбаршчыкаў адбытых нядаўна дадатковых выбараў у Лідзкім і Сьвянцянскім выбарных акругох, — мы ня можам моўчкі прайсці міма факту набліжэньня новых выбараў.

Усялякія выбары, у якіх прымаюць удзел шырокія народныя масы, гэта ёсьць *выяўленьне волі і настрою* гэтых масаў, — нават і ў такім выпадку, калі масы адмаўляюцца ісьці на выбары, калі ухіляюцца ад іх, ці байкатуюць іх. І таму, пытаньне аб тым, як-жа мы павінны паступіць, якое становішча заняць у адносінах да вызначаных на лістапад соймавых выбараў, мусіць быць вельмі добра разважана, мусіць быць вырашана зусім *сьвядома і арганізована.*

У арганізованых грамадзянствах гэткія справы вырашаюцца народнымі масамі праз партыі, у якіх яны згуртаваны. У нас — ад часу разгрому Грамады, адзінае беларускае масавае палітычнае арганізацыі, нямашака зусім гэткіх народных згуртаваньняў, калі ня лічыць Камуністычнае Партыі, арганізацыі падпольнае, у якой беларускі элемэнт стаіць на апошнім месцы, а ўсім кіруе воля маскоўскага Комінтэрну. Дык палажэньне нашае ў гэты важны, мо' пераломны для Польшчы мамэнт—вельмі труднае.

Але і з гэтае труднасьці—ёсьць выхад.

Нямашака палітычных партыяў, але ёсьць тыя ці іншыя народныя арганізацыі культурнага і эканамічнага характару, у якіх людзі маюць магчымасьць сустракацца, гутарыць, абменівацца думкамі. Свае думкі і пагляды можна падаваць да агульнае ведамасьці праз прэсу, праз свае—хоць і нячысьленыя часопісі. І тыя нашыя палітычныя дзеячы, якія не адбіліся ад масаў, будуць прыслухівацца да выяўленых гэткім шляхам настрояў масаў і будуць шукаць способаў дзеля цясьнейшае ўвязкі з масамі, каб у поўнай еднасьці з імі кінуць той ці іншы кліч, утварыць тую ці іншую адумысную—дзеля выбараў — палітычную арганізацыю.

Ня ведаем яшчэ ў якіх варунках будуць адбывацца лістападавыя выбары. Ня ведаем, які голас падасьць наша вёска ў аснаўным пытаньні: ісьці ці ня ісьці на выбары? Але ведаем адно: калі ў грамадзянстве няма еднасьці, калі яно расьцярушана, не аб'яднана нейкай супольнай, шырокай палітычнай ідэяй, дык і нічога дапяць ня здолее. Прыраўнуйце хаця-бы выбары 1922 году да адбытых толькі што дадатковых выбараў у Лідчыне і Сьвянцяншчыне, ня кажучы ўжо аб выбарах 1928 году,—і зрабеце з гэтага лёгічны вывад. Ен вам пацьвердзіць нашыя словы, І затым то, незалежна ад таго, як беларусы пад Польшчай вырашаць справу ўчасьця ці неўчасьця ў соймавых выбарах, масы павінны свой націск зрабіць на інтэлігэнцыю, на сваіх палітычных павадыроў, каб яны сумленна выпаўнілі свой абавязак перад народам і дапамаглі яму разабрацца ў сучасных абставінах палітычнага жыцьця — ў імя супольнага ўсім запраўдным беларусам ідэалу Працоўнае Беларусі.

# Роспуск Сойму і Сэнату.

## Новыя выбары 16-га і 23-га лістапада гэтага году.

У суботу 30-га прошлага месяца зусім неспадзяванам для агулу грамадзянства паказаўся ў друку дэкрэт аб роспуску Сойму й Сэнату ніжэйнаступнага зьместу:

„Пасьля зрэлага намышленьня сьцвярджаю, што найважнейшаю рэчаю для працы будучых грамадзян Польшчы—ёсьць направа падставовых правоў, якімі кіруецца Рэспубліка, дзеля таго, што яны зьяўляюцца падставаю для ўсіх правоў, істнуючых у Польшчы.

Направа зьяўляецца неабходнаю дзеля таго, што, на жаль, да гэтага часу ня можна ўнікнуць праўнага хаосу істнуючага ў Польскай Рэспубліцы. Калі я пераканаўся, што гэтай направы, паміма маіх высілкаў, не магу дапяць пры помачы істнуючага ў сучасны мамэнт Сойму Рэспублікі, здэцыдаваўся распусьціць істнуючы Сойм і Сэнат. Дзеля гэтага на падставе арт. 16 п. 2 і 3 Канстытуцыі, — распускаю, на прапазыцыю Рады Міністраў, Сойм і Сэнат з дня 30 жніўня 1930 г., вызначаючы тэрмін выбараў у Сойм на дзень 16 лістапада 1930 г., а тэрмін выбараў у Сенат на дзень 23 лістапада 1930 г.

Варшава, дня 29 жніўня 1930 г,

Прэзыдэнт Рэспублікі

(—) *Ігнат Масьціцкі.*

Старшыня Рады міністраў

(—) *Язэп Пілсудскі.*

Роспуск Сойму ў сучасны мамэнт маець аграмаднае палітычнае значэньне.

Як відаць са зьместу вышэйпададзенага дэкрэту, галоўным заданьнем новага сойму будзе зьмена Канстытуцыі.

Усё беларускае грамадзянства зноў мусіць здаваць экзамен на сваю палітычную сьпеласьць. Ад таго ці іншага выніку выбараў на нашых землях будзе залежаць палітычная „удзельная вага" нашага народу сярод іншых народаў, засяляючых польскую дзяржаву.

## Цэнтральны Саюз

### Беларускіх Культурна-Прасьветных і Гаспадарчых арганізацыяў і інстытуцыяў.

Даўно адчувалася патрэба ў такой цэнтральнай арганізацыі, якая ня толькі аб'ядынвала-б працу ўсіх беларускіх культ. асьветных і гаспадарчых арганізацыяў, але давала бы пэўны напрамак у гэтай працы, будзіла ініцыятыву на мясцох і г. д. Словам, для нашага нац. адраджэнскага руху, патрэбны свой цэнтр які захапіў бы гэтую справу ў свае рукі і даў-бы моцны імпульс для яе далейшага разьвіцьця.

Якраз такая арганізацыя паўстае на нашых землях. Пасьля даўгіх клопатаў перад рознымі ўладамі — надовячы ўрэшце быў зарэгістраваны Устаў Цэнтральнага Саюзу, які маець права аб'еднываць дзеяльнасьць усіх култ.-асьветных і гаспадарчых беларуск. установаў.—Згодна § 2 гэтага Уставу — Цэнтральны Саюз маець права: a) бараніць інтарэсы ўсіх беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў, інфармаваць уладу пра культ. і гаспадарчыя патрэбы беларус. арганізацыяў. b) дамагацца крэдытаў для пашырэньня дзеяльнасьці белар. арганізацыяў; c) выступаць перад уладамі з прапазыцыямі і просьбамі, маючымі на мэце павышэньне стану культуры й гаспадаркі а таксама й агульнага дабрабыту краю. d) адчыняць і ўтрымоўваць навуковыя ўстановы вышэйшыя, сярэднія і ніжэйшыя, як прафэсыянальныя, так і агульна-прасьветныя, курсы і вучыцельскія сэмінары, бібліятэкі і народныя дамы; e) рабіць даклады, курсы, сходы, тэатральныя прадстаўленьні і г. д. f) выдаваць і распаўсюджваць кніжкі, брашуры, часопісі; g) даваць школьнай моладзі стыпэндыі; h) адчыняць і весьці варштаты гаспадарчых машын і т. п. i) арганізоўваць краязнаўчыя экскурсыі k) утрымоўваць і высылаць інструктароў, лектараў, даваць розныя парады; l) склікаць зьезды арганізацыяў і інстытуцыяў; m) арганізоўваць выстаўкі, конкурсы і выдаваць нагароды; n) У мэтах лепшага правядзеньня паасобных заданьняў Цэнтр. Саюз арганізуець розныя лекцыі.

З пададзенага вышэй, мы бачым, якія шырокія заданьні і правы маець Цэнтральны Саюз.

Ён можа зрабіць вельмі многа для дабра беларускага народу, калі толькі беларускія арганізацыі ажывяцца й прымуць актыўны ўдзел у працах Саюзу, зразумеўшы, якое колёсальнае значэньне для краю будзе мець такая аб'едная праца.

Далей з зацьверджанага ўставу бачым, што сядзібаю Ц. Саюзу зьяўляецца Вільня й, што Ц. Саюз выступае, як асоба праўная—гэта значыць, што маець права набываць усялякую маемасьць—як рухомую, там і нярухомую.

Сябрам Ц. Саюзу можа быць кожная беларуская арганізацыя, якая стаіць на груньце творчае, пазытыўнае працы. Колькасьць прадстаўнікоў ад кожнай арганізацыі вызначаець прэзыдыум Ц.-Саюзу сумесна з Рэвізыйнаю Камісіяю.

Уладамі Ц. Саюзу зьяўляюцца: Галоўная Ра-

## *Грамадзяне!*

*Чытайце і пашырайце нашую газэту і памятайце, што амаль поўная адсутнасьць беларускіх часапісяў і газэтаў тлумачыцца нічым іншым, як нашаю шкоднаю прывычкаю — вельмі неакуратна высылаць грошы за газэту. Калі хочаце атрымліваць рэгулярна газэту, якая зьяўляецца пакуль што амаль адзінаю на нашых землях, — выконвайце свой грамадзкі абавязак чытача.*

*Газэта наша маець шмат недахопаў але ў большай частцы яны тлумачацца адсутнасьцю матэр'яльных сродкаў.*

*У меру таго, як будуць больш рэгулярна наплываць грошы ад падпішчыкаў—газэта можа павялічыць свой формат і выходзіць разы 2-3 на тыдзень, а можа штодня.*

*Пакуль што, дзякуючы павялічэньню ліку падпішчыкаў— мы маем цяпер магчымасьць рэгулярна выдаваць газэту 1 раз на тыдзень.*

*Памятайце, грамадзяне, што адчуваецца вялікая патрэба ў белар. часопісі і што гэтую патрэбу вы можаце задаволіць толькі сваімі ўласнымі высілкамі.*

да, Прэзыдыум Галоўнае Рады, Рэвізыйная Камісія; апрача гэтага на правінцыі могуць арганізоўвацца павятовая і акружныя рады з адпаведнаю кампэтэнцыяю.

Кожная з пададзенных уладаў мае акрэсьленае статутам поле сваёй дзеяльнасьці, аб чым мы ня будзем тут з прычыны браку мейсца гаварыць падрабязьней, — тым балей, што хутка павінен выйсьці з друку Устаў Ц. С., які стане вядомы шырокім кругом беларускага народу.

Трэба спадзявацца, што з таго часу, як распачне сваю працу Ц. С. — значна падымецца інтэнсыўнасьць працы нашых беларускіх установ і створацца новыя пэрспэктывы на ніве нашага культурна-адраджэнскага руху.

Пэўне-ж, не абыдзецца і без таго што Ц. С. заатакуюць з усіх бакоў. Але гэтая атака, калі-б яна паднялася — сьведчыла-б толькі або аб тым, што не перавяліся яшчэ ворагі нашага адраджэньня, ці аб тым, што нават самыя карысныя й здаровыя ідэі — у нашых здэмаралізаваных варунках жыцьця не знаходзяць пакуль што агульнага прызнаньня, дзякуючы вузкаму кругазору многіх нашых „дзеячоў“. Будзем аднак верыць у тое, што ідэя Саюзу ўсіх беларускіх установ, як ідэя здаровая й патрэбная для ўсяго беларускага народу—знойдзе зразуменьне ў сьведамай частцы беларускага грамадзянства, якое, як нам вядома,— імкнецца перайсьці да творчае працы. Пажадаем ад сябе поўнага пасьпеху ў працы Ц. Саюзу, які, бязумоўна, павінен зьявіцца, магутным і дадатнім фактарам у нацыянальным жыцьці бел. народу.

# Чарговае заданьне.

Усім вядома ў якім сумным стане знаходзіцца ў сучасны мамэнт коопэратыўны рух на нашых землях і якое слабое зразуменьне праяўляець нашае сялянства ў сваёй масе да гэтага руху.

Дзякуючы цэламу раду прычын, аб якіх мы тут разводзіць ня будзем, і наша сьведамая частка бел. грамадзянства мала цікавіцца коопэрацыйнымі справамі, забываючы аб тым, якою вялікаю творчаю сілаю зьяўляецца коопэрацыя ў іншых краёх (напр. у Даніі, Нямеччыне).

Нашым абавязкам зьяўляецца абудзіць зацікаўленьне і разьвіць творчую энэргію ў кірунку коопэратыўнага будоўніцтва, у першую чаргу сярод інтэлігэнтнейшай часткі бел. грамадзянства.

Гэтае грамадзянства, захапіўшыся коопэратыўнаю ідэяй, зможа, у сваю чаргу, зрушыць гэтую справу з мёртвага пункту і зрабіцца правадыром кооп. ідэяў сярод беларускага сялянства.

У першую чаргу трэба, на нашу думку, зьвярнуць увагу на нашу студэнскую моладзь, якая хутка зьедзецца ў Вільню.

Тут зьяўляецца патрэбным і абавязкавым, каб старэйшае віленскае грамадзянства парупілася аб арганізацыі кооп. курсаў для нашай моладзі.

На гэтых курсах мы павінны зазнаёміцца з з тэорыяй і практыкай кооп. руху з такім разьлічэньнем, каб скончыўшыя гэтыя курсы маглі, прыехаўшы на вёску, згуртаваць навакол сябе найбольш сьвядомую частку сялянства і павясьці практычную кооп. працу.

Сялянства чакае гэтае дапамогі ад сваёй асьвечанай моладзі і яна павінна у сваю чаргу, выканаць свой грамадзкі абавязак.

А з гэтаю мэтаю моладзь, і ніхто іншы, павінна дамагацца, каб наша інтэлігэнцыя, якая мае ў сваіх радох і асьвечаных коопэратараў, прыйшла ёй з дапамогаю.

З другога боку і нашыя гімназіі павінны сур'ёзна аднесьціся да справы коопэр. ўзгадаваньня гімназіяльнае моладзі.

Павінны быць пастаўлены як сьлед школьныя коопэратывы, павінны чытацца лекцыі аб коопэрацыі, рабіцца экскурсыі ў коопэратывы з мэтаю практычнага зазнаямленьня з кооп. справамі і г. д.

Словам, перад кожнаю Пэд. Радаю шырокае поле для карыснае працы ў гэтым кірунку і толькі трэба здолець выкарыстаць усе тыя магчымасьці, якія ёсьць нават у нашых умовах жыцьця.

Толькі тады, як мы распачнем сур'ёзную працу ў гэтым кірунку, толькі тады зможам спадзявацца, што кооп. ідэя знойдзе большае зразуменьне сярод усяго грамадзянства.

Якая будзе карысьць ад разьвіцьця гэтага руху ў нашым краі — гаварыць ня прыходзіцца; кожны сьвядомы грамадзянін павінен гэта разумець.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Адстаўка кабінэту Валерыя Слаўка. Марш. Пілсудскі—на чале новага ўраду.

23 жніўня зусім неспадзявана прэм'ер Славэк злажыў п. Прэзыдэнту Рэспублікі прашэньне аб адстаўцы. У вечары таго-ж дня марш. Пілсудскі адведзіў п. Прэзыдэнта, які запрапанаваў яму прэм'ерства. Марш. Пілсудскі не адмовіўся, але засьцярог сабе права даць канчальны адказ у панядзелак. У панядзелак, 25 жніўня, зьявіўся ўжо дэкрэт п. Прэзыдэнта на імя марш. Пілсудскага—з назначэньнем яго прэм'ерам. У тым жа дэкрэце п. Прэзыдэнт — па прапазыцыі новага прэм'ера — назначыў міністрамі блізу ўсіх міністраў папярэдняга ўраду, апроч міністра камунікацыяў п. Кюна, які знаходзіцца ў адпуску. Толькі адзін міністар без партфэлю—новы; гэта—падпалк. Бэк, бліжэйшы асабіста супрацоўнік марш. Пілсудскага; п. Бэк, як можна думаць, мае йграць тую-ж ролю „віцэ-прэм'ера“, якую ў першым габінэце марш. Пілсудскага йграў п. Бартэль, але, як думаюць, толькі—ў адваротным кірунку: не злагоджваньня адносінаў з Соймам, але наадварот—іх завастрэньня...

---

Калі марш. Пілсудскі 1 ліпня 1928 г. злажыў прэзэсуру ў габінэце, ён заявіў тады п. Прэзыдэнту, што „гатовы ў кожную хвіліну зьявіцца на яго заклік—у разе цяжкога крызісу“, каб ратаваць Польшчу...

Польская прэса піша, што зьяўленьне марш, Пілсудскага ізноў у ролі шэфа габінэту азначае, што Польшча—напярэдадні нейкіх рашучых крокаў, можа—рашучай „разгрыўкі“...

Польшча запраўды-ж апынулася ў вельмі цяжкім крызісе—і гаспадарчым і палітычным, — як унутраным так і вонкавым. На міжнародным полі на Польшчу страшэнна націскае Нямеччына, дамагаючыся перагляду граніцаў. Таму ўсе—як у краі так і заграніцай з найвялікшым зацікаўленьнем чакалі ад новага прэм'ера яго праграмовых заяваў.

І запраўды — на другі-ж дзень пасьля свайго назначэньня — марш. Пілсудскі даў ува ўсе ўрадавыя газэты сваю „гутарку“ з галоўным рэдактарам „органу палкоўнікаў“ „Газ. Польскай“ паслом Медзінскім. Гутарка займае блізу цэлую балонку газэтнага ліста вялікага фармату. Уся яна занята вострай крытыкай „няхлюйнай“ польскай канстытуцыі. Асабліва-ж дастаецца ізноў „паном паслом“, якіх марш. Пілсудскі называе дармаедамі, зладзеямі, анальфабэтамі, якія нічога ня робяць, але толькі „сьмярдзяць“ у Сойме, у гэтым „хляве пасольскім“ на ўвесь край, дзяручы за гэта ўсе скарбовыя грошы..

„Паноў паслоў“, трэба ня толькі гнаць далоў, „выкідаць за дзьверы“ з усіх дзяржаўных установаў, але калі прыгэтым такому пану паслу яшчэ і наложаць па карку, „дык гэта так сама не пашкодзіць“... Таму, што гэта „толькі самі паслы выдумалі для сябе нейкае сьмешнае паняцьце нятыкальнасьці, тады як і канстытуцыя гавора толькі аб нятыкальнасьці судовай“...

У такім і падобным стылю—выключна аб паслох—напісаны блізу ўвесь артыкул-гутарка новага прэм'ера. Практычны вывад з усяго гэтага—праграма бліжэйшай дзейнасьці прэм'ера выражаны так сама моцна, хаця і ня зусім ясна.

Нягодная—„няхлюйна“, супярэчна напісаная, недарэчная Канстытуцыя мае быць рашуча пераароблена. Гэта—адна з першых задачаў праграмы. Няведама толькі дакладна, як—у якім напрамку і якім парадкам — ці прадбачаным у Канстытуцыі, ці... цалком непрадбачаным, будзе яна зьменена.

Вось усё, аб чым мы з вялізарнага артыкулу новага прэм'ера даведаліся аб праграме новага ўраду.

### Міжнародная аграрная канфэрэнцыя ў Варшаве.

28 жніўня ў Варшаве распачала працу міжнародная аргарная канфэрэнцыя. Канфэрэнцыя гэтая, скліканая з пачыну польскага ўраду, мае мэтай аб'еднаньне аграрных (земляробскіх) краёў—дзеля абароны іх інтэрэсаў проці наступу на іх з боку краёў прамысловых. Нядаўна падобная канфэрэнцыя адбылася ў Сінаі (ў Румыніі). Але там лік учасьнікаў быў значна абмежаваны: канфэравалі паміж сабой толькі Румынія, Югаславія і Вэнгрыя.

Цяпер Польшча склікала амаль ня ўсе аграрныя дзяржавы Эўропы: Югаславію, Румынію, Вэнгрыю, Латвію, Эстонію, Баўгарыю і Фінляндыю.

Задачы канфэрэнцыі — вельмі важныя. Таму пачын Польшчы спатканы з вялікім спачуцьцём. Адмовілася рашуча ад учасьця толькі адна Літва. Ведама-ж—з прычынаў палітычных. Але і тая пакінула сабе права далучыцца пасьля да „аграрнай антанты“, калі такое аб'еднаньне будзе зроблена. Не запрошаны Варшавай быў СССР.

---

## Заграніцай.

### Сэнсацыйныя прамовы мін. Трэвірануса.

1 ліпня г.г. лінія Рэйну была звольнена ад акупацыі і адразу голас дзяржаўнікаў Нямеччыны набраў нябывалай пасьля вайны сілы і пэўнасьці. Адзін па адным яе павадыры, на чале з самім Гіндэнбургам, заяўлялі, што, „вырашыўшы пакуль што (!) свае задачы на Заходзе, нямецкая палітыка скіроўвае ўсе свае сілы на Усход“, дзе першым чынам павінен быць скасаваны гэты „калідор“, залечана гэтая „крывавая рана на целе Нямеччыны“...

18 ліпня быў распушчаны Рэйстаг (парлямэнт), пачалася выбарная кампанія. Амаль ня ўсе партыі выставілі сярод выбарных лёзунгаў — на першым пляне—перагляд усходняй граніцы, у першую чаргу—скасаваньня „калідору“.

На груньце гэтых настрояў, як лёгка зразумець, не магло не дайсьці да крайнасьці, да якойсьці сэнсацыі.

І вось, 10 жніўня, новы міністар акупаваных абшараў, тварэц новай „Нямецкай Дзяржаўнай Партыі“, асабісты прыяцель Гіндэнбурга, Трэвіранус сказаў у Бэрліне — перад зьездам дэлегатаў усходня-нямецкіх арганізацыяў прамову, якая ўрэшце ўзварушыла нават прывыкшую ўжо да баявых лёзунгаў сучаснай Нямеччыны Эўропу.

„Наш усход трэбуе ад нас урэшце яснасьці, сказаў прамоўца. Трэбуе, каб у справу ўсходу уважоў урэшце ўвесь нямецкі народ... Думка наша ляціць у краі над Віслай, які перарэзаны крывавай ранай... Думка наша бяжыць да Данцыга... Будучыня нашага польскага суседа, дзяржаўная незалежнасьць якога ў значнай меры акуплена пралітай за яго нямецкай крывёй (?), можа быць забясьпечана толькі тады, калі паміж Польшчай і Нямеччынай спыняцца ўсялякія спрэчкі, спароджаныя несправядлівымі граніцамі. Граніцы, праведзеныя проці права ня могуць быць утрыманы на даўжэйшы час проці волі пакрыўджанага народу... Прыйдзе-ж урэшце дзень, у які гэтая воля пераможа, і ўсходняя частка Нямеччыны будзе ізноў злучана з Бацькаўшчынай“. Запраўды-ж ніхто яшчэ ў Нямеччыне дагэтуль з адказных міністраў не прамаўляў так „выразна“...

Паднялася страшэнная бура — у француской і асабліва польскай прэсе. Польскі пасол у Парыжу кінуўся да Брыяна. Той выклікаў да сябе нямецкага пасла. У нямецкай прэсе зьявілася паўафіцыяльная заява, што мін. Трэвіранус „выразіў свой асабісты пагляд на справу“. Нямецкая прэса, зьмягчаючы рэзкасьць пагрозаў прамоўцы, даводзіла ў вадзін блізу голас, што „па сутнасьці Трэвіранус сказаў тое-ж, што ўсьцяж казаў сам Штрэзэман“. Урэшце сам Трэвіранус адказаў выразна ўсім сваім крытыкам у краі і заграніцай.

„Сучасны міністар дэмакратычнага краю, заявіў ён, зьяўляецца няменш, чым любы дэпутат ці публіцыст, выразіцелем народный думкі і волі. Ён ня можа, як калісьці, сядзець сабе ў сваім габінэце, адгарадзіўшыя ад краю, ад народу каменным мурам бюракратызму. Прамова мая была толькі зьвязнай кароткай формуляй думкі і волі ўсяго нямецкага народу, хаця, зразумела, на выражэньне публічна гэтай формулі я і ня быў спэцыяльна ўпаважнены ўрадам“... „Што датычыць да тало, цягнуў далей міністар, якія спосабы перагляду граніцаў я меў на ўвазе ў сваей прамове — мірны ці... іншыя, дык на гэта пэўне-ж адказ мой вельмі кароткі: Нямеччына яшчэ не натолькі азброена, каб мець сілу здабыць сабе сваю зямлю сілай аружжа“ (!!).

Таму, канчае лагодна міністар, ясна як дзень, што я мог мець на ўвазе толькі і выключна міравыя спосабы перагляду“...

Аднак-жа, як француские так і англійскія ваенныя спэцыялісты ў адзін голас кажуць, што аружная сіла сучаснай Нямеччыны ўжо нічым няменшая, як у любой з іншых вялікіх дзяраваў-Дзіва, што якраз гэтым і тлумачыцца такі запраўды-ж баявы, ня „міравы“ тон прамоваў нямецкіх міністраў...

Толькі 15 жніўня — пасьля павароту свайго з Эстоніі — польскі мін. Залескі заявіў афіцыяльны пратэст проці прамовы Трэвірануса, якая „робіць некарысны ўплыў на польска-нямецкія стасункі“.

На гэта нямецкі пасол у Варшаве адказаў польскаму міністру, што ён „ня будзе распачынаць дыскусіі над прамовай нямецкага міністра, што паводле яго вестак прамова „не зьмяшчала нічога такога, што б зьмяняла падставы польска-нямецкіх стасункаў, ці ня была ў згодзе з дзеючымі паміж Польшчай і Нямеччынай трактатамі“... „Было-б зусім недарэчна, дадаў пасол, думаць, што мін. Трэвіранус казаў аб зьмене граніцаў шляхам вайны“...

Так паведаміла нямецкае паўафіцыяльнае агенства, дадаўшы, што адказ нямецкага пасла ў Варшаве цалком адпавядае паглядам нямецкага ўраду.

Але сам нямецкі ўрад, як і яго афіцыяльнае агенства маўчыць аб усей гэтай „сэнсацыі“, як вады ў рот набраўшы... Ясна, што цалком падтрымлівае прамоўцу — як з пераконьня так і з нагляду на выбарную кампанію...

### Чарговыя сэсіі Рады і Агульнага Збору Лігі Нацыяў.

Чарговая 61-шая сэсія Рады Лігі Нацыяў мае распачацца ў Жэнэве 5 верасьня. 10 верасьня начнуцца паседжаньні 11-га Агульнага Збору Лігі.

На павестцы справаў, якімі мае заняцца Ліга, стаяць, як галаўнейшыя, такія:

1. Даклад камісіі ў справе ўзгодненьня статуту Лігі з пактам Кэльлёга аб „вечным міры“.
2. Даклад спэцыяльнай камісіі ў справе гарантыяў бясьпечнасьці і міжнародавых арбітражных судоў.
3. Спаміж дакладаў сталых камісіяў Лігі найбольшую цікаўнасьць выклікае даклад камісіі камунікацыі і транзыту, якая ізноў паднімае справу польска-літоўскай камунікацыі, а так сама — даклад скандальнай мандатнай камісіі—ў справе англійскага мандату над Палестынай.
4. 11-ты Агульны Збор Лігі мае выбраць 3 нясталых сябраў Рады — на мейсца выходзячых з Рады па чарзе дзяржаваў—Канады, Кубы і Фін-

